# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (771) БЕЛАСТОК 6 СНЕЖНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.



*Маестат і дынамізм шахцёрскага Шлёнска — танец «Траяк».*




Паўмесяца выступаў у Беластоку папулярны і дасканалы калектыў песні і танца „Шлёнск”. Працуе ён пад мастацкім кіраўніцтвам заслужанага шлёнскага збіральніка і знаўцы фальклору, творцы калектыва — Станіслава Хадыны.

„Шлёнск” прыехаў у Беласток па запрашэнню Беластоцкага аддзела Агульнапольскай турыстычнай спулдзельні „Грамада”.

Штовечар перад асветленым тэатрам стаялі аўтобусы, якімі прыязджалі на канцэрты людзі з вёскі. Былі арганізаваны нават спецыяльныя паязды, напрыклад з Голдапскага павета адзін раз поезд прывёз 500 чалавек.

„Шлёнск” спявае і танцуе перш за ўсё поўныя жыцця і раздолля шлёнскія песні і танцы, хоць не староніцца і фальклору іншых раёнаў.

„Шлёнск” з'яўляецца арыгінальным і самародным творам дынамічнага, багатага і прыгожага польскага Шлёнска, шахцёрскага Шлёнска, які 4 снежня штогод святкуе традыцыйную „Барбурку” — дзень шахцёрскага брацтва, дзень радасці людзей працы.

Калектыў „Шлёнска” з'яўляецца частым госцем у шахцёраў, а таксама на „Барбурцы”.

Наш фотарэпартаж зроблены ў час выступленняў „Шлёнска” ў Беластоку. Мы спалучаем яго са святам рабочага Шлёнска. Калектыў „Шлёнска” сваёй песняй шле нам прывітанні ад шахцёрскай зямлі.

**Тэкст Вера Леўчук**

**Фота Цаф — Раман Сянько**



*Жаночая група хору.*



*На народных інструментах рэха далёка нясе кліч песні — ад гор высокіх да мора глыбокага.*



*Мужчынская сіла і вытрымаласць праяўляецца ў гуцульскім танцы.*



*Фрагмент у зблізкэнні.*

## БГКТ хроніка

■ 18-га лістапада ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы адбылося выязное пасяджэнне секцыі беларускага школьніцтва акругавага метадычнага цэнтра на чале з яго дырэктарам др Ежым Немцам. У пасяджэнні прынялі ўдзел кіраўнікі секцый беларускай мовы павятовых метадычных цэнтраў, сакратар ГП Янка Зенюк і старшыня камісіі асветы ГП Мікалай Гайдук. Былі разгледжаны наступныя пытанні: а) педагагічнае майстэрства кіраўнікоў павятовых метадычных цэнтраў беларускай мовы і ўзровень падрыхтоўкі выкладчыкаў беларускай мовы, б) матэрыяльная база да выкладання беларускай мовы, в) формы прафесіянальнага дасканалення настаўнікаў беларускай мовы. Удзельнікі гэтай нарады перад сваім пасяджэннем пабывалі ў беларускім ліцэі і пачатковай школе № 3 у Бельску Падляшскім і цікавіліся ўсімі справамі, звязанымі з выкладаннем беларускай мовы.

■ 19-га лістапада прэзідыум Галоўнага праўлення правёў сваё пасяджэнне ў Мілейчыцах, супольна з членамі прэзідыума сямяціцкага аддзела БГКТ. У павестцы дня была ацэнка выканання пастаноў VI справаздачна - выбарчай канферэнцыі аддзела, якая адбылася 20.IV.1969 года. Справаздачу чытаў старшыня аддзела Анатоль Мартыновіч. Прыводзім некалькі даных з даклада: у Сямяціцкім павеце налічваецца 550 членаў. 60% — гэта моладзь. 30% — члены ПАРП. 2% — ЗСЛь. 40% — гэта члены Саюза вясковай моладзі. Членскія складчыны аплачаны за гэты год (да 19.XI.) у 65%. Існуе 14 мастацкіх калектываў. З нагоды 25-ай гадавіны Народнай Польшчы і 100-ай з дня нараджэння У. І. Леніна актывісты аддзела арганізавалі 52 фотавыстаўкі, 12 акадэмій, 28 савецкіх фільмаў і прачыталі 63 даклады. У пасяджэнні ГП БГКТ прыняў таксама ўдзел кіраўнік грамадскага аддзела ўнутраных спраў ВРН у Беластоку — Мікалай Куц і інструктар павятовага камітэта ПАРП у Сямяцічах Аляксандр Кондэль.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 21-га лістапада арганізаваў вечарыну для моладзі. На ёй выступіў з гутаркай лектар таварыства паўсюдных ведаў на тэму „Шкоднасць курэння і алкаголю для арганізму чалавека”. (мх)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### РАШУЧАЕ АСУДЖЭННЕ

У сувязі з налётамі бамбардзіроўшчыкаў паветраных сіл ЗША на тэрыторыі ДРВ у ноч на 21 лістапада г.г. ТАСС апублікавала заяву.

Апрача пацверджання, што ўзброеныя сілы ДРВ, адбіваючы напад, збілі шэсць амерыканскіх самалётаў, у заяве ТАСС гаворыцца: «На якой падставе Злучаныя Штаты прысвойваюць сабе права парушаць граніцы паветранай прасторы, суверэннай дзяржавы, спрабуюць перанесці ў адносіны паміж дзяржавамі «законы джунгляў»? Не выклікае сумненняў, што вынікам такіх дзеянняў можа быць толькі далейшае ўскладненне абстаноўкі ва ўсім Індакітаі».

Новая правакацыя ЗША выклікала законны гнеў і абурэнне ў сусветнай грамадскасці, якая справядліва ацаніла гэтыя дзеянні як яўнае імкненне Вашынгтона працягваць у далейшым раздуваць ваенны канфлікт на Індакітайскім паўвостраве.

ТАСС упаўнаважан заявіць, гаворыцца ў заяве, што Савецкі Саюз поўнасцю падтрымлівае пазіцыю ўрада ДРВ, які рашуча запатрабаваў ад урада ЗША спыніць усе акцыі, што з'яўляюцца замахам на суверэнітэт і бяспеку Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

### У ТАН АСУДЖАЕ

У сувязі з аднаўленнем налётаў амерыканскай авіяцыі на тэрыторыю ДРВ, генеральны сакратар ААН У Тан зрабіў заяву, у якой асудзіў дзеянне ЗША супраць Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

Зыходзячы з маёй пазіцыі ў адносінах да бамбардзіровак Паўночнага В'етнама, якая неаднаразова выказвалася ў мінулым, сказаў У Тан, я разглядаю нядаўнае аднаўленне бамбардзіровак на Поўначы як трывожную падзею.

Як вядома, Генеральны сакратар ААН У Тан неаднаразова крытыкаваў амерыканскія бамбардзіроўкі тэрыторыі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

### НАСЕЛЬНІЦТВА ІНДЫІ

У 1970 годзе насельніцтва Індыі дасягнула 540.700 тысяч чалавек. Прырост насельніцтва быў больш як 13 мільёнаў чалавек. У сярэднім насельніцтва Індыі павялічваецца на 2,5 працэнта ў год.

Паводле даных, нараджальнасць за ўказаны перыяд скарацілася да 38 чалавек на тысячу, а смяротнасць знізілася прыкладна да 13 чалавек на тысячу.

### ЗНАЧЭННЕ ПРАБЛЕМЫ

45 мільёнаў долараў выдзяляе амерыканскі ўрад на даследчыя працы, звязаныя з канструкцыяй аўтамабіля, дым якога не занячышчваў бы паветра. Доследы маюць быць закончаны ў 1975 годзе, а ў 1980 годзе трэба спадзявацца ўвядзення гэтага аўтамабіля да масавай серыйнай прадукцыі. (ак)



## БССР

### БЕЛАРУСКАЯ ВОДАЛЯЧЭБНІЦА

Буйная водалячэбніца ўступіла ў строй у санаторыі «Лётцы» Віцебскай вобласці.

Некалькі год таму назад тут са шчыліны забіў фантан мінеральнай вады, багатай солямі хлору, брому, ёду, калію, кальцыю, натрыю і магнію. З таго часу ўдвая павялічылася прапускная здольнасць здраўніцы. Да 200 хворых змогуць тут штодзень прымаць працэдуру. Акрамя таго, хворыя атрымаюць хвойныя, радонавыя і вуглякіслыя ванны, гразелячэнне.

Санаторый пашыраецца. Будуецца новая сталовая, памяшканне рэгенерацыі гразі, саракакватэрны жылы дом. У далейшым намечана пабудаваць два спальныя карпусы, разлічаныя на 150 месц кожны, клуб, спартыўны комплекс.

### НАФТАГІГАНТ

Размешчаны на поўдзень ад Мазыра велізарны зямельны масіў літаральна ўсыпаны аб'ектамі, якія будуюцца. Нафтаперапрацоўчы завод з усімі дапаможнымі службамі зойме прыкладна 250 гектараў, побач з ім вырастуць карпусы спадарожных прадпрыемстваў — сажавага, бялковых вітамінаў, хімкамбіната.

### ПОЛЬСКІ ФІЛЬМ

З цікавасцю глядзяць мінчане каляровую шырокаэкранную музычную польскую кінакамедыю *«Самазванец з гітарай»*. Паставіў яе рэжысёр Ежы Пасендорфер у творчым калектыве «Кадр». У фільме прымаюць удзел польскія эстрадныя ансамблі «Скальды» і «Сіне-чорныя»!

### 200 ТЫСЯЧ КІНАПРАЕКТАЎ

Мінскі завод імя Вавілава выпусціў 200-тысячны кінапраектар. Столькі апаратаў для дэманстрацыі фільмаў у сельскіх кінатэатрах выпушчана на прадпрыемстве за 10 год.

### ПА ТЭЛЕФОНУ

У вестыбюлі чыгуначнага вакзала ў Мінску ўстаноўлены аўтаматычны тэлефонны пункт для міжгародніх перагавораў. Апусціўшы 15 капеек і набраўшы шыфр, можна неадкладна пазваніць абаненту, які знаходзіцца ў Маскве або ў Свярдлоўску, Ленінградзе або Рызе. Аўтаматычная тэлефонная сувязь з гэтага пункта ажыццяўляецца з 18-цаццю буйнымі гарадамі краіны.

### ЧЭМПІЁН СВЕТУ

У амерыканскім горадзе Фініксе закончыўся 40-ы чэмпіянат свету па стралковым спорце. Галоўнымі канкурэнтамі савецкіх спартсменаў былі амерыканскія снайперы. Ва ўпартай барацьбе стралкі з СССР апярэдзілі амерыканскую каманду заваяваўшы 44-ы медалі, 19 з якіх — залатыя.

Выдатнага поспеху дабіўся на гэтых спаборніцтвах мінчанін Віталь Пархімовіч. Ён папоўніў сваю калекцыю адразу 12 медалямі: 6 залатымі, 4 сярэбранымі і 2 бронзавымі. Такога поспеху не дабіўся да яго ніводны беларускі стралок. В. Пархімовіч удастоены звання заслужанага майстра спорту. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ГОСЦЬ З ФРАНЦЫІ

Па запрашэнню прэзаса Рады Міністраў Юзэфа Цыранкевіча пабываў у Польшчы з афіцыйным візітам прэм'ер Францыі Жак Хабан-Дэльмас. На заканчэнне візіту ў выніку праведзеных размоў Юзэф Цыранкевіч і Жак Хабан-Дэльмас пастанавілі апублікаваць супольную дэкларацыю дружбы і супрацоўніцтва паміж абедзвюма краінамі.

У дэкларацыі сцвярджаецца, што абодва бакі зараз больш, чымсьці калі-небудзь раней перакананы ў значэнні ўзаемнай дружбы і супрацоўніцтва паміж абедзвюма краінамі. Пастанавілі яны ўсебакова ўзмоцніць намаганні ў напрамку далейшага, выдатнага і гарманійнага развіцця ўзаемнага гаспадарчага абмену, асабліва ў галіне машынабудаўнічай, электратэхнічнай і электрычнай прамысловасці.

Абодва бакі пацвердзілі таксама, што існуюць задавальняючыя ўмовы для рэалізацыі польска-французскіх культурных і навукова-тэхнічных дагавораў. Падкрэслілі яны сваё задавальненне з дзейнасці існуючых камісій навукова-тэхнічнага і культурнага супрацоўніцтва і выявілі гатоўнасць стварэння. у выпадку патрэбы, новых камісій. Абодва бакі будуць таксама развіваць палітычнае супрацоўніцтва, утрымліваючы практыку правядзення паміж абодвума ўрадамі рэгулярных кансультацый адносна міжнародных праблем, а асабліва ў галіне праблем Еўропы.

### У СЕЙМЕ

Адбылося IX пленарнае пасяджэнне Сейма, на якім прыняты тры пастановы: бюджэтнае права, права аб льготах у падатках з інвестыцыйных прычын і права аб гігіенічных умовах харчавання.

### З'ЕЗД

У Варшаве адбыўся V агульнапольскі з'езд сельскагаспадарчых спулдзельняў прадукцыйных. З'езд выбраў новыя ўлады, а таксама прыняў пастанову, якая акрэслівае асноўныя напрамкі дзеяння спулдзельняў прадукцыйных у гадах 1971—75.

### НА ЧЫГУНЦЫ

У кастрычніку чыгуначным транспартам перавезена на 237 тысяч тон тавараў больш, чымсьці прадбачваў гэта план на гэты месяц. Тым не менш чыгунка надалей не зможа перавезці ўсіх тавараў, якія перавезці павінна. Да 20 лістапада не паспела яна перавезці 118 тон тавараў.

### ПЕРАПІС ЖЫВЁЛЫ

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) прыняло рашэнне, што пры нагодзе набліжаючагася паўсюднага перапісу насельніцтва, у некаторых вёсках адбудзецца таксама і перапіс жывёлы. Атрыманыя дадзеныя дадуць погляд на колькасць і структуру хатняй жывёлы. Дадзеныя гэтыя з'яўляюцца неабходнымі ў сувязі з сёлетняй цяжкай сітуацыяй у сельскай гаспадарцы і адбываючыміся ў гэтай галіне зменамі. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

На днях адбыўся пленум Ваяводскага камітэта партыі. Пленум быў прысвечаны ацэнцы працы гарадскіх камітэтаў. Госцем на пленуме быў намеснік кіраўніка арганізацыйнага аддзела ЦК З. Жандароўскі, а вёў пасяджэнне I сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч.

Абмяркоўвалася праца гарадскіх камітэтаў у меншых гарадах на прыкладзе шасці гарадскіх камітэтаў, якія раней атрымалі пашыраныя правы. Як адзначалася на пленуме, кожны горад мае сваю спецыфіку — гістарычную, дэмаграфічную ці грамадскую. Таму нельга накідаць ім зверху зусім аднолькавыя для ўсіх гарадоў праблемы ці метады дзейнасці. Кожны горад мае свае, часта непаўторныя заданні. Падкрэслівалася на пленуме, што неабходна далей удасканальваць стыль працы гарадскіх камітэтаў. Праца камітэтаў павінна абапірацца на грамадскія формы дзейнасці. Гарадскія камітэты павінны часцей займацца гарадскімі справамі, якія яшчэ знаходзяцца ў кампетэнцыі павятовых камітэтаў. Але трэба памятаць, што ў паветах галоўнай кіруючай палітычнай сілай з'яўляецца павятовы камітэт.

### СУСТРЭЧА З АКТЫВАМ НОТ

У беластоцкім Доме тэхніка адбылася сустрэча I сакратара ВК ПАРП А. Лашэвіча з актывам Галоўнай тэхнічнай арганізацыі. Беластоцкія інжынеры і тэхнікі рыхтуюцца да агульнапольскага кангрэсу тэхнікаў. На сустрэчы шмат увагі было прысвечана камунальнай гаспадарцы, будаўніцтву і паслугам. Тав. А. Лашэвіч высока ацаніў уклад працы інжынераў і тэхнікаў у развіццё нашага горада.

### ПЛЕНУМ ГАРАДСКОГА КАМІТЭТА

У гэтым тыдні адбыўся таксама пленум беластоцкага гарадскога камітэта партыі. На пленуме абмяркоўвалася справа тэхнічнага прагрэсу на найважнейшых прамысловых прадпрыемствах горада. Пленум прыняў пастанову, якая вызначае заданні для далейшага больш эфектыўнага і хутчэйшага ўвядзення тэхнічнага прагрэсу на прамысловых прадпрыемствах.

### СЕЙМАВАЯ ПАДКАМІСІЯ

У Беластоку прабывала старшыня сеймавай камісіі працы і сацыяльных спраў пасол I. Срочынская, а таксама падкамісія грамадскай апекі і барацьбы з алкаголем пад кіраўніцтвам пасла д-ра Франкоўскага. Паслы наведалі некаторыя прадпрыемствы спулдзельні інвалідаў, дом пенсіянераў. спецыяльныя дамы для псіхічнахворых. Адбылася таксама сустрэча сеймавай падкамісіі з прадстаўнікамі рад нарадовых і грамадскіх арганізацый.

### АРХІТЭКТАРЫ З КАЎНАСА

Прабывала на Беласточчыне дэлегацыя каўнаскіх архітэктараў. Госці цікавіліся прамысловым і гарадскім будаўніцтвам, працай праектных бюро, жыллёвымі спулдзельнямі. У гэты ж час у Каўнасе прабывала дэлегацыя беластоцкіх архітэктараў. (яч)




**NIEDZIELA, 6. XII.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Jak uzyskać wysoką mleczność krów". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych. 9.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 10.00 „Kino Filmów Amatorskich". 11.00 Międzynarodowe Finałowe spotkanie w piłce ręcznej: ZSRR — CSRS i Norwegia — Polska. 12.10 Dziennik TV. 12.25 „Górnik ci ja, górnik" („Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza"). 12.55 „Przemiany". 13.25 „Zakochani" — film fab. radz. 14.45 Dla dzieci: „Zimowe marzenia" („Kabaret Czarny Piotruś"). 15.15 „Piórkiem i węglem". 15.40 „Spotkanie z pisarzem" — Jan Gerhard. 16.10 Studio 63: A. Mickiewicz — „Pan Tadeusz" — księga II — „Zamek". 17.05 Jubileuszowy Puchar w łyżwiarstwie figurowym. 19.00 PKF. 19.10 Spis Powszechny 1970. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Humoreski Marka Twaina" („Skąd my się znamy"). 20.50 „Kapryśne lato" — film fab. czechosł. 22.05 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK, 7. XII.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.20 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 Sylwetki X Muzy — Lech Zahorski (kostiumolog filmowy). 18.25 „Eureka". 19.00 „Rovanieni" — rep. film. Tele-Aru. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: G. Zapolska — „Moralność pani Dulskiej". 21.35 „Śpiewa Ryszard Tarasewicz. 22.00 „Kino Filmów Animowanych" (filmy polskie). 22.30 Dziennik.

**WTOREK, 8. XII.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — J. Kochanowski „Odprawa posłów greckich". 9.30 Przerwa. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Dymy i dymarki". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „Miejsce wśród ludzi" (Odpowiedzialność). 11.25 „Cztery dni Neapolu" — film fab. wł. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Pielęgnacja bydła". 14.25 Przerwa. 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.45 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.30 „Szlakiem Dobrej Roboty". 19.00 „Bazylea" — rep. Tele-Aru. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Kino Interesujących Filmów: „Cztery dni Neapolu' — film fab. wł. 21.20 Magazyn Medyczny. 21.50 „Gramo von balet" — film rozr. czechosł. 22.20 Dziennik.

**ŚRODA, 9. XII.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Mieszanina a związek chemiczny". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Wędrówki jonów w cieczach". 10.25 „Bez wyjścia" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 11.15 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Nacisk i ciśnienie". 12.25 Przerwa. 12.45 „Wybieramy zawód". 13.15 Przerwa. 15.20 i 22.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Aula". 17.15 Magazyn I T P. 17.30 „Wśród rybaków Gryfa". 18.00 Spotkanie z Serge Reggiani" — film. 18.20 „Od Archangielska do Amurska". 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Bez wyjścia" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 „Światowid". 21.30 PKF. 21.40 „Epitafium na śmierć Billie Holiday" — program muzyczny. 22.00 Dziennik.

**CZWARTEK, 10. XII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Metodyczne ujęcie nauki o izometriach w przestrzeni" — wariant I. 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Rzym republikański". 9.30 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. I—IV lic.) Język polski — „Poezja miłosna". 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja doprawiania roli" cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.40 „Poligon". 18.10 „Chopin i Moniuszko" — II program („Polska Pieśń Artystyczna"). 18.45 „Przypominamy, radzimy". 18.50 „Rozmowy o książkach". 19.00 TV Kurier Białostocki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 Teatr Kobra: F. Durbridge — „Melissa" odc. II. 21.05 „Od C do C" — III program („Alfabet Rozrywki"). 21.50 Dziennik. 22.05 Sprawozdanie z międzynarodowego turnieju w hokeju na lodzie o nagrodę Izwiestji: Polska — Związek Radziecki (III tercja).

**PIĄTEK, 11. XII.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Urządzamy szkolną pracownię". 10.25 „Jej siedem wieczorów" — film fab. czechosł. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne — „Plastyka dla przemysłu". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Przysposobienie obronne — „W okresie zagrożenia". 13.15 Przerwa. 15.20 i 23.10 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 18.00 Wszechnica TV: „Nasi uczeni". 18.30 Film. 19.00 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nieoczekiwany cios" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: H. Ibsen — „Dzika kaczka". 22.50 Dziennik.

**SOBOTA, 12. XII.**

7.55 „Nieoczekiwany cios" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"). 8.20 „Znajoma czy nieznajoma" — film fab. ang. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ oddechowy". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Najwyższe góry Europy". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „W Tatrach". 12.25 Przerwa. 15.15 TV Kurs Rolniczy: „Mchanizacja prac przy obsłudze inwentarza". 15.45 Program tygodnia. 16.05 „Oferty". 16.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Jak jo se zaśpiewom". 17.20 „Serioża" — film fab. radz. 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Z wizytą u Was". 21.40 Dziennik. 22.00 „Znajoma czy nieznajoma" — film fab. ang.




**PIĄTEK, 4 GRUDNIA**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. Film fab. 10.15 Nauka — produkcji. 10.45 Nowiny. 14.30 Program dnia. 14.35 Nowiny. 14.45 TV teatr dla dzieci. 16.00 Kłos. 17.00 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Kroki pięciolatki. 19.50 Hokej. Czechosłowacja — Szwecja. 22.00 Nowiny.

**SOBOTA, 5 GRUDNIA**

8.00 Program dnia. 8.05 Gimnastyka. 8.30 Nowiny. 8.45 Poszukiwacze. 9.45 Dziś — Dzień Konstytucji. 10.15 Koncert estradowy. 10.50 Zdrowie. 11.15 Pieśń wojny domowej. 12.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — CSKA. 14.15 Przegląd międzynarodowy. 14.30 Szkatułka muzyczna. 14.45 Prawo szczęścia. 15.15 Pieśni przyjaźni. 15.55 Pięćsetny numer. 16.40 Kroki pięciolatki. 17.00 Klub filmowy. 18.00 Czas. 18.30 Koncert. 19.45 I. Andronnikow — opowiada. 20.50 Balet. Spektakl teatru im. Stanisławskiego i Niemirowicza — Danczenki. 21.40 Nowiny.

**NIEDZIELA, 6 GRUDNIA**

8.00 Dla dzieci. 8.30 Spektakl TV. 9.25 W świecie słów i obrazów. 10.00 Obiektyw. 11.00 Dla dzieci. 11.30 Program wierzących i niewierzących, 12.00 Program sportowy. 14.15 Dla żołnierzy. 14.45 Dla wsi. 15.15 Kiosk muzyczny. 15.45 Kroki pięciolatki. 16.00 Nowiny. 16.05 Rozmowa przy obrazie. 16.30 Spotkania muzyczne. 17.00 Waszyngton. 17.30 Transmisja sportowa. 18.00 Czas. 18.30 Kroki pięciolatki. 18.50 Ekran filmu krótkometrażowego. 19.30 Wieczór teatru im. Majakowskiego. 21.00 Sceny z oper rosyjskich. 21.30 Nowiny.

# ШТО ЧУВАЦЬ?

## ПРА ТОЕ, ШТО ПЛАНУЮЦЬ У БЕЛАВЕЖЫ

Слаўная Белавежа з кожным годам усё болей затрачвае сваё вясковае аблічча. Як вынікае з матэрыялаў, дастаўленых нам Белавежскай ГРН, да 1972 года будуць электрыфікаваны апошнія, дагэтуль яшчэ не асветленыя вуліцы, а менавіта: Мастова і Меляшкоўская, Броўская і Новая. Тратуар атрымаюць вуліцы: Трапінка, Спартовая, Вольгі Габец і Калеёвая. Адначасова перабудуюць дарогу на вуліцах Трапінка і Палуднёвая. Палепшыцца даезд ад Палацовай да Таварнай чыгуначных станцый, а таксама з Белавежы ў Пагарэльцы. Пабудуюць новы мост.

Гаспадары Белавежы ўсур'ёз думаюць пра водаправод. Яны і спадзяюцца на актыўную і масавую дапамогу жыхароў пасёлка.

Дык пажадаць бы белавежцам, каб іх намеры як найхутчэй здзейсніліся. Белавежа з'яўляецца ж вітрынай жыцця і гаспадарнасці нашага грамадства за ўсходніх раёнах краіны. Вось у 1960 годзе Белавежу наведала 26 тысяч турыстаў, 5 год пазней — ужо 48 тысяч, а яшчэ праз 5 год іх колькасць зноў амаль падвоілася. Дык у мінулым годзе Белавежу і яе наваколле аглядала 83 тысячы сваіх і 2 тысячы замежных гасцей з 36 краін.

Варта тады разбудоўваць і перабудоўваць гэтую нашу лясную жамчужыну.

## ПРА ЭКАНОМІЮ, ГАНДАЛЬ І КУЛЬТУРУ

Гандлёвая спулдзельня **„Сполэм"** у Беластоку і ва ўсіх падпарадкаваных ёй павятовых аддзелах праводзіць зараз шырокую акцыю пад лозунгам: **„Эканомія на кожны дзень"**. Гандлёўцы са **„Сполэм"** рашылі вучыць гаспадынь ашчаднаму і разумнаму гаспадаранню ўласным часам і сямейным бюджэтам.

Дзейнасць гандлёўцаў **„Сполэм"** канцэнтруецца ў асяродках **„Практычная пані"**. Гэтыя асяродкі ад 15-га верасня г.г. да 30 красавіка 1971 года будуць наладжваць розныя курсы, выстаўкі, гутаркі, прысвечаныя асноўным ведам па эканоміцы дамашняй гаспадаркі, харчавання сям'і, аб гігіене, модзе і многіх іншых падобных праблемах нашага штодзённага жыцця.

Мерапрыемства, мяркуем, слушнае, карыснае і патрэбнае. А можа б і ГС-ы захацелі прылучыцца да гэтай акцыі? Вясковым гаспадыням таксама ж прыдаліся б гэтыя веды.

## ПРА БЕЛАСТОЦКІ ЭКСПАРТ

Гаспадарка Беластоцкага ваяводства паспяхова справілася з экспартнай прадукцыяй у першай палавіне гэтага года, хаця запланаваныя заданні былі вышэйшыя ад размераў экспартнай прадукцыі ў першым паўгоддзі мінулага года.

Амаль 68 працэнтаў тавараў, прызначаных на замежны рынак, было адпраўлена ў капіталістычныя краіны.

Беласточчына найбольш (звыш 35%) усяго экспарту) экспартуе сельскагаспадарчых і спажывецкіх прадуктаў, найменш, на жаль, гатовых машын і прылад.

**М. Нурэцкі**

перад перапісам, каб узгодніць дзень і гадзіну перапісу і пакінуць „Адозву да насельніцтва" і „Карту памеру памяшканняў". У вызначаны тэрмін перапісчыкі прыдуць другі раз, каб зрабіць перапіс. Вельмі важная рэч, каб у гэты час дома была хоць адна дарослая асоба, якая магла б даць дакладныя звесткі аб усіх членах сям'і. Кожны перапісчык будзе мець сваю легітымацыю, якую ён павінен паказаць перад пачаткам перапісу. У час перапісу перапісчык мае права задаваць толькі такія пытанні, якія ёсць у фармуляры.

Перапісчыкі пачнуць сваю працу 8 снежня а 8-ай гадзіне раніцы, а скончаць найпазней 15 снежня а 19-ай гадзіне. Многія з іх напэўна скончаць сваю працу і раней.

Памятайце, што вынікаў перапісу з нецярплівасцю чакае наша гаспадарка, чакаюць міністэрствы, плануючыя органы, рады народовыя, чакаюць гаспадарчыя дзеячы і вучоныя. Бо вынікі перапісу дазволяць лепш ацаніць нашу рэчаіснасць і дапамогуць у далейшым усебаковым развіцці нашай краіны.

Таму давайце ахвотна адчынім дзверы перапісчыку і дапаможам яму запісаць дакладныя дадзеныя аб нас! (я)

## НАТАТКІ З ЮГАСЛАВІІ




Калі б хто прыехаў у Югаславію ў летні поўдзень, вельмі здзівіўся б. Апоўдні замірае там жыццё. Пусцеюць вуліцы. Ад 12-ай да 17-ай гадзіны не працуюць магазіны і кіёскі. Стаяць пераважна і далекабежныя аўтобусы, а шафёры іх адпачываюць у цені. Горача! Пуста становіцца на пляжах. На рынку таксама, схаваўшыся пад цяністыя дрэвы, дрэмлюць прадаўцы — гадзіны чатыры — пяць дрэмлюць разам з імі ўложаныя вялікімі копамі слівы ды апельсіны, якія ніхто ў гэтую пару і так не купляе.

Пазашываліся ўсе, хто можа, як найдалей ад сонца, у старыя каменныя муры найбольш ахвотна, бо найбольш паспяхова аберагаюць яны ад нясцерпна гарачых промняў палуднёвага сонца.

Гэта так званая „с'еста", слова гэтае прыйшло, бадай, з італьянскай мовы.

Хто цікавіўся гісторыяй Югаславіі, той ведае: мала ёсць такіх краін на свеце, на зямлі якіх, на працягу многіх гадоў гісторыі сутыкаліся б так востра розныя цывілізацыі і культуры. Славяне прыбылі на Балканы ў VI—VII стагоддзях, як мяркуюць, з-над Одры, хутка паглынулі яны мясцовыя плямёны, што знаходзіліся пад уплывам Візантыі і Рыму, і абжыліся на новай айчыне. Недзе ад XII стагоддзя стала гэта тэрыторыя месцам сталых сутычак і войнаў. З поўначы ціснула аўстра-венгерская манархія, з поўдня напіралі туркі. Пад турэцкай няволяй квітнеючая калісьці краіна сербаў прышла ў заняпад Атаманскае царства аддавала перавагу ваенным выправам і даходам з грабяжоў, занядбалі тут гандаль, сельскую гаспадарку, рамяство. На поўначы харвацкі і славенскі народы, хаця і мелі лепшыя ўмовы для гаспадарчага развіцця, знаходзіліся пад палітычным прыгнётам.

Усё гэта пакінула свой трывалы след не толькі ў гісторыі і гаспадарцы краіны, але і ў звычаях і культуры народа.

На поўначы, дзе мы былі, турэцкіх уплываў амаль не заўважаеш. Вось Рыека, вялікі партовы горад. Гэта не гарадок, аб адпачынку ў якім мог бы марыць кожны турыст, хаця і знаходзіцца горад ля мора. Гул тут пад'ёмных кранаў, рух караблёў, аўтамашын, грузавікоў. Горад гэты аднак вельмі своеасаблівы. Толькі ў 1934 тодзе вызваліўся ён з-пад італьянскага панавання. Змяшаліся тут розныя стылі архітэктуры, будучыя вынікам гаспадарання розных дзяржаў. Ёсць тут венгерскія вуліцы, ёсць будынкі, пабудаваныя ў стылі нямецка-аўстрыйскіх казарм, ёсць крутыя, вузкія, тыпова італьянскія вулічкі з паразвешванай бялізнай. Старэйшыя людзі дасканала гавораць па-італьянску і нямецку.

Падобны ж лёс напаткаў і горад Раб (даўнейшы рымскі Арбе), дзе нам таксама пашчаслівілася пабываць. Ляжыць ён на аднайменнай выспе, якая на працягу вякоў пераходзіла з рук у рукі. Ад VII да XV стагоддзя была гэта выспа пад славянамі, аб чым гавораць захаваўшыеся з таго часу цудоўныя помнікі культуры. У наступных стагоддзях захапіла выспу Аўстрыя, пасля Італія, а толькі ў 1921

(Працяг на стар. 6)



**Сярэдневяковая вулічка выспы Раб. Так выглядаюць тут амаль усе вуліцы.**

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізж старонкі на дроцікі або шнурочак.*

**БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ ○**

33.

### VIII

**Прасцейшая, але лепшая зброя. — Знаёмства з дзікам. — Журавіны. — Хоць змяю за здабычу. — Лясныя жыхары. — Царская жывёла. — Вожыкава булава. — Уперад на чарапаху! — Пешаход з Афрыкі.**

— А што будзем сёння рабіць? — запытаўся на другі дзень Віктар.

— Я прапаную пайсці далей у лес на разведку, — адказаў Мірон. — Мы ж зусім не былі яшчэ ў глыбіні.

— Трэ было б якую-небудзь зброю мець, — заўважыў Віктар.

— Толькі не твой лук, — усміхнуўся Мірон. — Лепш зробім сабе добрыя дубіны.

Знайшлі адпаведныя дрэўцы, зламалі іх, абпалілі на агні, нават булдавешкі пакінулі на канцы. Зброя выйшла хоць куды!

— З гэткай зброяй я і на ваўкоў згодзен ісці! — казаў Віктар, размахваючы сваёй дубінай.

— І сапраўды, з дзвюма такімі штукамі не боязна, — згадзіўся Мірон і трэснуў па кусту так, што ад яго паляцелі шматкі.

Узялі з сабой арэхаў, падклалі агню і пайшлі.

Чым глыбей уваходзілі ў лес, тым часцей сустракаліся сухія ўзгоркі. На вышэйшых пясчаных месцах рос хваёвы бор, на ніжэйшых — гушчар з ельніку, алешніку, бярозы, рознага хмызняку. Часам траплялiся прыгожыя лугавінкі з ліставымі дрэвамі: дуб, граб, ліпа.

— Ідзём да тых дубоў, — сказаў Мірон. — Можа, знойдзем леташніх жалудоў. Калі прыйдзе бяда, яны спатрэбяцца.

— Ды і без бяды кавы добра будзе папіць, — адказаў Віктар. — Трэба толькі мець начынне і цукар.

Калі падышлі да дубоў, то ўбачылі, што там нехта перад імі ўжо гаспадарыў. Зямля была перакапаная, віднелася шмат слядоў, а жолуда аніводнага. Але дзіўней за ўсё было тое, што сляды здаваліся свежымі.

— Хто б гэта мог быць? — задуменна сказаў Мірон.

— Дзікі! — упэўнена адказаў Віктар, разглядаючы сляды.

— Невядома, ці радавацца, ці шкадаваць, што знайшліся такія суседзі, — прамовіў Мірон.

Віктар чамусьці памахаў сваёй дубінай.

— Добра было б здабыць дзіка, але, кажуць, звер вельмі небяспечны. Калі раззлуецца, дык нават добрая зброя не паможа.

У гэты момант збоку нешта затрашчала. Хлопцы ўздрыгануліся і мацней сціснулі свае дубіны. З-за ламачча паказаўся дзік. Здавалася, увесь ён складаўся толькі з адной страшэннай галавы. Ні зада, ні кароткіх ног не было відаць, але ж бурая галава з шчаціністым хібам, натапыранымі вушамі, вялізнымі ікламі і маленькімі злоснымі вочкамі была жудаснай.

35.

ўсё можа спатрэбіцца. Здымем з яе скуру.

— Хіба зрабіць з яе чучала для нашага тэхнікума, экземпляр добры, — згадзіўся Віктар.

Агідная была справа, але праз некалькі мінут скура была здзертая. На зямлі застаўся голы, брыдкі скрутак, а Віктар закінуў сабе на плечы скуру-кішку.

Ціха ішлі яны па лесе, пільна прыглядаючыся навокал. За гэты невялікі час, як яны апынуліся на востраве, прырода значна змянілася. Лісце на дрэвах загусцела, трава паднялася. Здавалася, і птушак больш стала, мацней разлягаліся па лесе іх галасы. Вось пінькае лілавагрудая зябка, вось заліваецца чорны дрозд, свішча жоўтая івалга, стукаюць дзятлы. Заварушыліся розныя казлюкі, а ў цяньку ўжо пачуўся непрыемны звон камароў. Сям-там пераскакваюць з дрэва на дрэва вавёркі.

— Вось каб яшчэ арэхаў знайсці! — прамовіў Мірон.

— Разласаваўся, — усміхнуўся Віктар. — Не на кожным кроку гэта здараецца, брат ты мой. Нават, каб і знайшлі такое самае дупло, дык гэта зусім не значыць, што там абавязкова будуць арэхі: маглі і вавёркі з'есці за зіму.

Тут па дрэве шмыгнула нейкая новая жывёліна, крыху падобная да вавёркі, толькі танчэйшая і даўжэйшая за яе. Калер скуры — руды з белымі плямамі.

Мірон няўважліва зірнуў на яе і прамовіў:

— А гэта не вавёрка?

— Тсс! — шапнуў Віктар і прытрымаў рукою Мірона. — Гэта гарнастай!

— Няўжо ж ён такі нікчэмны? — здзівіўся Мірон.

— Зімою ён белы, а цяпер якраз змяняе зімовае адзенне на летняе. Самая галоўная яго адзнака — канец хваста, які заўсёды бывае чорным.

Гарнастай тым часам знік з вачэй.

Мірон зняважліва паціснуў плячыма.

— А я думаў — гарнастай немаведама што такое. Раней жа ніхто не меў права насіць гарнастаевыя футры, апрача цароў ды князёў.

— Я думаю, каб цары прысвоілі сабе таксама выключнае права на лапці, тады і лапці лічыліся б найбагацейшай і самай моднай рэччу, — усміхнуўся Віктар.

Праз некаторы час натрапілі на вожыка. Убачыўшы небяспеку, небарака зараз жа скруціўся ў клубок. Хлопцы падышлі да яго і пачалі меркаваць, што з ім рабіць.

— Каб былі дома, то ўзялі б яго жывым на пацеху, а тут што з ім будзеш рабіць? Есці, мусіць, яго нельга, — разважаў Віктар.

— А трэ было б і яго як-небудзь скарыстаць, — напружана думаў Мірон. — Могуць, напрыклад, спатрэбіцца ягоныя іглы ў якой-небудзь справе.

— А ведаеш што? — схапіўся Віктар. — Калі ўзяць яго скуру ды абкруціць ёю канец нашай дубіны, дык будзе такая булава, што з ёю хоць на мядзведзя ідзі!

— Вось бачыш!

— Але ж як шкада забіваць гэтае мілае стварэнне! — сказаў Віктар.

Аднак прыйшлося забіць. Да журавін і змяінай скуры далучыўся вожык. З гэтай здабычай яны і вярнуліся дадому.

34.

— Не рухайся! — прашаптаў Віктар.

Дзік спыніўся, задраў свой лыч, панюхаў паветра, глуха рохнуў і завярнуўся назад.

— Ну і страшыдла! — прамовіў Мірон. — Яго не толькі дубіна, але і гармата не возьме. Ліха з імі, з гэтымі суседзямі.

— Крыўдна ўсё ж! — пашкадаваў Віктар. — Гэткі выпадак, а ты стой ды глядзі, як дурань.

Пайшлі далей. У густым ельніку пачулі зусім блізка моцны лопат крылаў: здавалася, нейкая вялізная птушка заблыталася ў галінах і не можа адтуль выбіцца. Зірнулі ў той бок і сапраўды заўважылі вялікага чорнага птаха. Ляцеў ён так нізка і так нязграбна махаў крыламі, што здавалася, яго было зусім лёгка злавіць рукамі.

— Хапай яго! — кінуўся наперад Мірон.

Але Віктар не зварухнуўся.

— Дарэмна. Гэта табе так здаецца. Глушэц заўсёды так лятае ў ельніку, але ніхто яшчэ не лавіў яго рукамі.

— У такім разе хадзі сюды, — крыкнуў Мірон. — Я табе пакажу нешта другое.

Калі Віктар выбраўся на купчастую балоцістую палянку, дык убачыў, што Мірон схіліўся над журавінамі.

— Пакаштуй, якія яны смачныя, салодкія пасля зімы, — сказаў Мірон. — Шкада толькі, што гэтыя лясныя жыхары ўжо ласаваліся тут. І нам мала пакінулі.

З вялікай ахвотай падмацаваліся хлопцы ягадамі ды назбіралі яшчэ ў шапку.

— Нічога, жыць можна, — з задавальненнем сказаў Віктар. — Але ўсё ж такі мушу сказаць, што ўвесь час адчуваю сябе галодным, і ў роце і ў жываце неяк нядобра. Хоць бы кавалак хлеба ці якога-небудзь варыва — зусім іншая была б справа.

— Спачатку сырому зайцу быў рады, а цяпер ужо сапраўднага абеду захацеў, — засмяяўся Мірон. — У нашым становішчы трэба разважыць інакш: абы-чым, толькі б падтрымаць сябе. І галоўнае, каб разнастайная была страва. Вось чаму і журавіны вельмі карысныя. Гэта, брат, пладавіна, а ў ёй ёсць жалеза, вугляводы, вітаміны.

З поўнай шапкай журавін яны не хацелі ісці далей у лес, далі круг і накіраваліся назад. У адным месцы ўбачылі вялікую змяю. Яна ляжала, скруціўшыся, на пяньку і грэлася на сонейку. Галаву яна вытыркала ўверх і млява варушылася.

Віктар мігам падскочыў і забіў яе дубінаю.

— Ну і гадзіна! — сказаў ён і пакратаў змяю нагою. — Мусіць, з метр будзе.

Яны пасунуліся былі далей, але хутка Мірон прыпыніўся.

— Слухай, — сказаў ён, — у нашым становішчы шкада пакідаць здабычу, якая б яна ні была. Ці нельга будзе як-небудзь скарыстаць і гэтую?

— Ды што ж ты з яе зробіш? — засмяяўся Віктар.

— Не ведаю яшчэ. Але ў нашай бядняцкай гаспадарцы

36.

Было яшчэ рана, не пазней за поўдзень. Часу заставалася досыць для гаспадарскай працы. Паабедалі рыбай, арэхамі і журавінамі.

Скуру змяі павесілі сушыцца, а з вожыка пачалі рабіць булаву. Але ж і папакутавалі, пакуль знялі з яго скуру сваім „нажом"! Скрывавілі ўсе чатыры рукі. Затое булава выйшла на славу! Толькі Мірон усумніўся ў ёй.

— Супраць чалавека, — сказаў ён, — лепшай і не трэба. А што ты зробіш са зверам? Для яго гэтыя іглы — нішто.

— А ўсё ж такі лепш, як голая дубіна, — цешыўся Віктар.

Цяпер, калі непасрэдная пагроза голаду адсунулася, яны мацней адчулі недахват адной дробязі — пасудзіны ці якога чарапка для вады. Увесь час ім прыходзілася піць жменямі, а калі вада спала, то зусім дрэнна зрабілася: часам да чыстай вады нельга было даступіцца так, каб дастаць яе абедзвюма рукамі, і даводзілася піць брудную.

— Гэткае глупства ды так перашкаджае — злаваў Віктар. — Пойдзем шукаць гліны, можа, злепім які чарапок.

— Хадзем па рыбу і па дарозе пашукаем, — згадзіўся Мірон. Да захаду сонца застаецца яшчэ гадзін з пяць.

Але не так лёгка было знайсці гліну, як гэта здавалася. То пяскі, то балота, — а гліны ні знаку. Усё далей і далей зварочвалі яны ўбок. Падыходзячы да аднаго балотца, здалёк заўважылі, што на беразе яго нехта капошыцца. Хлопцы прыпыніліся і пачалі ціхенька красціся. Але чым больш набліжаліся, тым больш дзівіліся: гэты „нехта" не быў падобны ні на звера, ні на птушку. Проста штосьці круглае круцілася на месцы, станавілася рубам.

— Чарапаха! — прашаптаў Віктар.

Хлопцы спыніліся і пачалі наглядаць за ёй. Чарапаха была велічынёю з шапку. Яна неяк смешна і нязграбна прыстасоўвалася, каб хвастом выкапаць у зямлі ямку, і была так занята сваёю справай, што нічога не заўважала навокал. Хлопцы падпаўзлі зусім блізка.

— Што яна робіць? — прашаптаў Мірон.

— Ямку капае, каб пакласці туды яечкі, — шэптам адказаў Віктар.

— Ці не пачакаць, пакуль яна паложыць? Кажуць, яе яечкі вельмі смачныя.

— Можа, яны і сапраўды смачныя, — сказаў Віктар, — але і яна не дурная: яна ўмее зрабіць так, каб такія ласуны, як ты, іх не елі.

— Якім чынам?

— Вельмі проста: палажыўшы яйкі, яна мочыць іх нечым вельмі непрыемным.

— Не можа быць! Хто табе казаў?

— У кніжцы чытаў.

— Тады ўперад! На чарапаху! — крыкнуў Мірон.

Хлопцы выскачылі і мігам схапілі бездапаможную жывёліну. Бедная чарапаха схавалася ў свой панцыр.

— Як жа да яе даступіцца? — сказаў Віктар, варочаючы яе ў руках.

(Працяг са стар. 5)




годзе яна была далучана да сербска-харвацкай дзяржавы. Невялікі горад Раб заварожвае прыбыша сваёй прыгажосцю і незвычайным выглядам. Трэба сказаць, што захаваў горад выгляд абсалютна сярэдневяковы; сціснутыя каменныя хаты ўздоўж вузкіх вулічак, выбрукаваных каменнымі плітамі, дзе-нідзе палацы патрыцыяў, аздобленыя гербамі гаспадароў, калючыя агавы, якія растуць проста са шчылін абаронных мураў. Ходзіш па выспе і думаеш, што ты сніш... Нездарма выспа належыць да самых модных і найдаражэйшых курортаў Адрыятыкі. Гэта таксама бадай найпрыгажэйшая выспа Ядрана. А трэба сказаць, што Ядрану прырода высп не паскупіла. Ёсць іх тут 1200, жывуць жа толькі на 60-ці. Не на ўсіх аднак выспах такія дасканалыя ўмовы, як на Рабе. Жыхары многіх з іх адчуваюць асабліва моцна недахоп вады. На некаторых выспах віно даюць задарма, а за ваду трэба плаціць.

Не заціраюцца ў памяці народа ўспаміны з часоў няволі. Яшчэ і цяпер захавалася шмат паданняў і легенд аб турэцкім прыгоне. Але асабліва жывыя тут успаміны з апошняй вайны.

Мы ў краіне Лікі, над Плітвіцкімі азёрамі, што ляжаць на вышыні чуць не кіламетра над узроўнем мора. Блакітныя, зялёныя, туркусовыя, — кожнае возера мае свой колер. Цяжка апісаць іх хараство. Тут, у гэтых пячорах, ля гэтых вадападаў знімалі славуты фільм „Віхету". Хто быў на гэтым фільме, той зможа ўявіць сабе нашыя ўражанні. Тут, у краіне Лікі, нараджаўся югаслаўскі партызанскі рух, тут у партызанскім атрадзе пазнаў сваю Яванку Юзэф Броз-Ціта, менавіта гэтага краю найбольш баяўся немец.

Па дарозе на азёры аўтобус спыняецца. На самай гары стаіць нямецкі бункер. Раблю з яго здымак панарамы лясоў і мора. Сапраўды — усё як на далоні, зручнае месца выбралі фашысты для абстрэлу партызан.

У партызанскім краю Лікі не ў адной яшчэ вёсцы жанчыны суцэльна ходзяць у чорным. Гэта знак жалобы па загінуўшых у час апошняй вайны партызанах: мужах, бацьках, сынах. Ходзяць яны самотна, аручы поле валамі, ды думаюць сваю цяжкую думу... І не можа ласкавае сонца Югаславіі разагрэць сэрцы жанчын у чорным, напаіць іх радасцю, ды развеяць тугу...

АДА ЧЭЧУГА

**Фота аўтара**



**Такімі мурамі імкнуліся абараніцца ад ворагаў жыхары выспы Раб.**

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### МАЯНЕЗ

Пачынаючы пісаць аб маянезе, неабходна адразу зрабіць агаворку; на кухні часцей застаюцца бялкі, чым жаўткі, але што рабіць, калі з бялкоў маянезу не зробіш?

Маянез робяць з жаўткоў і алею, а патрэбны ён у кожнай хаце, асабліва ў свята, калі робім мы добрыя, святочныя салаты, яечкі з маянезам (некаторыя гаспадыні любяць падаваць іх на стол у аварыйных выпадках), або «мухаморы». Грыб — «мухамор» з яечка робім наступным спосабам: варым крутое яечка, зразаем чубчыкі з аднаго і другога яго боку, ставім яечка на ліст салаты, напоўнены маянезам, на яечка кладзем палову памідора, а на памідоры робім кропелькі з маянезу, так, каб яечка выглядала, як мухамор. Пад грыбкамі можна зрабіць яшчэ «траву» з зялёнай пятрушкі, або зялёнай цыбулі. Калі на зялёную салату не сезон, можна змяшаць з маянезам зялёны кансерваваны гарошак і «мухаморы» ўставіць у гарошак.

Яшчэ да нядаўна маянез у хаце лічыўся роскашшу, і не кожная гаспадыня адважылася зрабіць яго самастойна. Вядома, маянез можна вельмі лёгка сапсаваць. Галоўны аднак прынцып пры яго падрыхтоўцы — гэта не пераліць алею.

Каб атрымаць маянез, у даволі высокі посуд (але можна і ў місачку) уліваем жаўткі і ўзбіваем іх венічкам, якім узбіваем бялкі. Пасля дадаём алей. Нельга адначасова ўліць замнога алею, бо маянез не ўдасца, але калі мы будзем дадаваць алей па адной кроплі, то трэба будзе яго рабіць вельмі доўга (мінут 40).

Таму вельмі добра было б калі б вам удалося вострым нажом выразаць у корку бутэлькі з алівай трохкутнік. Можна тады левай рукой трымаць бутэльку і даліваць алей, а правай рукой у той жа час працягваць узбіваць жаўткі. Надрэзаны корак будзе добра рэгуляваць паступленне алею ў жаўткі.

Ужо праз 5 мінут маянез зазвычай бывае гатовы. Ён становіцца цвёрды, і неабходна яго развесці альбо халодным булёнам, альбо смятанай, альбо лімонным сокам, а найлепш вострым соусам з марынадаў (напрыклад, з марынаваных грыбкоў, ці кансерваваных агуркоў). Маянез солім па смаку, дадаем цукру, гарчыцы (муштарды).

Падрыхтоўваючы маянез, на 2 жаўткі бярэм 1/4 літра алею.

Маянез можна выкарыстаць і пасля свят. Бо зазвычай пасля свят застаецца розная вяндліна, кавалкі печанага мяса, вараная гародніна. Варта тады парэзаць усе гэтыя рэшткі і заправіць маянезам, а атрымаем зусім нядрэнны салат, які дамачадцы з'ядуць з апетытам.

*Гаспадыня*



**В. БЕРАЖКОЎ**

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

Паядынак паміж Сталінам і Чэрчылем працягваўся. Лідэр брытанскіх торы ніяк не хацеў скласці зброю. Ён настойваў на сваім, паказваючы справу так, быццам, прапаноўваючы разгарнуць аперацыі на паўднёвым усходзе Еўропы, клапоціцца толькі аб хутчэйшай перамозе над агульным ворагам.

— Я згодзен, — заявіў англійскі прэм'ер, — з меркаваннямі маршала Сталіна аб непажаданасці раскідвання сіл. Але я баюся, што ў гэты шасцімесячны перыяд, у час якога мы маглі б узяць Рым і падрыхтавацца да вялікіх аперацый у Еўропе, наша армія застанецца ў бяздзеянні і не будзе аказваць націску на ворага. Я баюся, што ў такім выпадку парламент папракаў бы мяне ў тым, што я не аказваю ніякай дапамогі рускім...

Гэта ўжо быў прамы выклік.

— Я думаю, — запярэчыў Сталін, — што «Оверлард» — гэта вялікая аперацыя. І была б значна аблегчана і дала б напэўна эфект, калі б мела падтрымку з поўдня Францыі. Я асабіста пайшоў бы на такую крайнасць: перайшоў бы да абароны ў Італіі, адмовіўшыся ад захопу Рыма. І пачаў бы аперацыю ў Паўднёвай Францыі, адцягнуўшы сілы немцаў з Паўночнай Францыі. Месяцы праз два-тры я пачаў бы аперацыі на поўначы Францыі. Гэты план забяспечыў бы поспех аперацыі «Оверлард», прычым абедзве арміі маглі б сустрэцца і адбылося б нарошчванне сіл.

Чэрчылю гэта прапанова не спадабалася. Ён рэзка запярэчыў, што мог бы прывесці яшчэ больш важкія меркаванні і аргументы, але павінен заўважыць, што саюзнікі былі б больш слабымі, калі б не ўзялі Рыма. Тым больш, што для ажыццяўлення паспяховага паветранага наступлення на Германію неабходна дайсці да лініі Піза-Рыміні, у раёне якой размешчаны вялікія аэрадромы. Прапанаваўшы, каб гэта пытанне абмеркавалі ваенныя спецыялісты, Чэрчыль рашуча заявіў, што барацьба за Рым ужо ідзе і што адмаўленне ад узяцця Рыма азначала б паражэнне. А гэтага англійскі ўрад ніяк не мог бы растлумачыць палаце абшчын.

— «Оверлард» урэшце можна ажыццявіць і ў жніўні, — рэзюмаваў Чэрчыль...

Удзельнікі канферэнцыі ўсё зноў і зноў вярталіся да тэмы «Оверларда», але гэта не набліжала іх ні на крок да галоўнага пытання — аб тэрмінах і чарговасці ўварвання ў Паўночную Францыю. Між іншым, Чэрчыль не пакідаў сваіх спроб замяніць «Оверлард» якой-небудзь іншай аперацыяй у Міжземным моры або на Балканах. На другім пленарным пасяджэнні ён зноў развіваў гэту ідэю. Ён паўтарыў, што ў Міжземнамор'і англічане маюць значную армію і хочуць, каб гэта армія вяла актыўную барацьбу там на

